столькі цяжкое, што Японія і Англія, ратуючы свае становішча ў Кітаі, сьпешна кідаюць свае значныя сілы—на падмогу Чанг-Тсо Ліну...

Цікаўна, што гэтая сэнсацыйная тэлеграма ня кажа нічога выразна аб Чанг-Тсо-Ліне і Чанг-Кай Шэку. — Ці ня „здрадзіў" ізноў Чанг-Кай-Шэк, на гэты раз ужо — англійцаў — на карысьць паразуменьня з... Ханькоўскім урадам, як гэта прарочылі некаторыя эўрапэйскія знаўцы кітайскіх адносінаў?!...

### Чуткі аб паразуменьні Чанг-Кай-Шэка з Хань-Коў.

Чуткі аб паразуменьні Чанг-Кай-Шэка з ханькоўскім урадам быццам пацьвярджаюцца. Бо—раптам Чанг-Кай-Шэк спыніў наступленьне проці Ханькоў, і ўсе паўдзённыя арміі даўнейшага кантонскага ўраду, як умеранага крыла Куо-Мін-Тангу (Чанг-Кай-Шэка), таксама і яго левае, чырвонае, крыло—разам удэрылі па войску Чанг-Тсо-Ліна.

## У фашыстаўскай Літве.

### Польска-літоўскія перагаворы (?)

„Усх. Аген." даносіць з Коўны:

Вялікае хваляваньне ў Коўне выклікала вестка, быццам у Кенігсбэргу вядуцца ізноў тайныя польска-літоўскія перагаворы. Быццам з боку Літвы выступаў герой сьнежнёвага перавароту маёр Плехавічыус. Урадавага запярэчаньня весткі дагэтуль няма. Вестка ідзе з нямецкіх крыніцаў.

### Расстрэл ген. Клешчынскага.

Ген. Клешчынскі, былы начальнік літоўскага генаральнага штабу, абвінавачаны ў шпіёнстве на карысьць ССРР, расстраляны ў Коўне па прыгавору ваеннага суда.

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

### Сэнсацыйныя чуткі.

Сьпярша віленскія жыдоўскія газэты, а цяпер і нямецкая прэса піша аб тым, быццам польскі ўрад маніцца... легалізаваць камуністычную партыю! Нямецкая газэта „Фоссішэ Цэйтунг" піша, што мае весткі аб гэтым — „з добра паінфармаванай крыніцы"... Урад быццам кіруецца пры гэтым думкай зьняць з камуністычнай партыі той орэол, які дае факт бязумоўнага прасьледаваньня яе ўрадам, што цягне да яе ўсе сымпатыі ўсіх нездаволеных у Польшчы, а перадусім—масы безработных. Шляхам легалізацыі ўрад думае папхнуць камуністычную партыю ў бок збліжэньня з больш умеранымі польскімі сацыялістамі, якія супрацоўнічаюць даўно з урадам...

Гэтыя чуткі выклікалі страшэннае абурэньне ў правай прэсе, якая піша, што аб гэтым намеры ўраду ў Варшаве яшчэ ня чуваць. Правая прэса забываецца, што зусім ня так даўно думку аб легалізацыі камун. партыі ў Польшчы высунула... эндэцкая „Газэта Варшаўска"!

### ППС—у апазіцыі!

Як відаць, пад націскам нездаваленьня работніцкіх масаў, Галоўная Рада ППС на апошнім сваім паседжаньні пастанавіла перайсьці да апазіцыі проці сучаснага ўраду—ў цэласьці. Дагэтуль, як ведама, ППС аставалася вернай асобе старшыні ўраду—марш. Пілсудскага.

### Аб пазыцы—ўсе йшчэ перагаворы.

Газэты паведамляюць што-дня, што прадстаўнікі ўраду ўсьцяж вядуць перагаворы з прадстаўнікамі банкіраў — у справе пазыкі. Пішуць, што ўсе варункі ўжо апрацаваны ды ўзгоднены, толькі вось—заўсёды перашкоджае нейкае „толькі". Цяпер аказываецца замінка толькі ў пытаньні аб разьмеры працэнтаў. — Пішуць, што сума пазыкі—ўжо ня 70 мільён. даляраў, як пісалі раней, але толькі—60. Дый то запраўды будуць выданы на рукі ўраду толькі 92 прац. гэтай сумы, ці—замест 60 мільён. — толькі 55,2 мільён. даляраў. Інакш кажучы, ужо адразу Польшча страціць на гэтай пазыцы $4^{3}/_{4}$ мільён. дал., ці—каля 45 мільён. злотых, ня лічучы высокіх працэнтаў, якія яшчэ няведамы.

Яшчэ газэты пішуць, што ўся пазыка мае пайсьці на мэты стабілізацыі (ўсталеньня сілы і трываласьці) злотага, якому, як мы пісалі, пагражае вельмі цяжкая небясьпека заламаньня—з прычыны ўзросту дарагоўлі ды катастрафічнага павялічэньня некарыснасьці тарговага балянсу Польшчы. А гэта значыць, што для папраўы беспасрэдна гаспадарчага стану краю гэтая пазыка значэньня мець ня будзе, бо-ж атрыманы заграгранічны капітал ня будзе ўложаны ў тыя ці іншыя карысныя для краю дзяржаўныя прадпрыемствы. Пазыка даецца толькі на паддтрыманьне валюты, як гэта рабіў і Ул. Грабскі ў свой час. Пішуць газэты, быццам зараз пасьля гэтай стабілізацыйнай пазыкі заграніца мае даць Польшчы яшчэ і так-званую „інвэстыцыйную" пазыку—ўжо выключна на гаспадарчую разбудову краю. Ну, але гэта ўсё яшчэ толькі—добрыя надзеі. Праўда ў тым, што ня дадзена яшчэ і першая, для якой, да таго-ж і прапушчаны вельмі карысны мамэнт, калі ня было яшчэ такога спадку тарговага балянсу краю, пагражаючага паўторным крахам злотага. Цяпер прыдзецца згадзіцца на значна горшыя варункі пазыкі,—бо трэба ратаваць палажэньне за ўсякую цану... А пэўна-ж з гэтага скарыстаюць банкіры-жываеды.

### Справа пазыкі мае быць скончана.

У Варшаву прыехалі з Парыжа паўнамоцнікі групы банкаў, якія вядуць перагаворы з польскім урадам у справе пазыкі, — каб нарэшце падпісаць умову.

### Урачыстыя ўгодкі сьмерці Пятлюры ў Варшаве.

25 траўня ў Варшаве, у адным з афіцэрскіх казіно, адбылася ўрачыстая „акадэмія"—у памяць дня сьмерці ўкраінскага атамана Пятлюры, які калісьці маніўся „сфэдэраваць" Украіну з Польшчай, аддаўшы ўкраінскі народ — пад высокую руку марш. Пілсудскага... Як паведамляе „Кур. Варш.", у акадэміі прыняў учасьце рад высокіх саноўнікаў польскага ўраду і вышэйшых афіцэраў польскай арміі, паміж імі — шэф Усходняга Аддзелу мін. замежных справаў, ведамы „спэцыяліст у справах меншасьцяў"— п. Голувко, сябра ППС. Паміж іншым асабліва цікаўнай была прамова пэпэсаўскага літэрата п. Струга, які назваў Пятлюру „сымвалам незалежнай Украіны", заявіўшы, што стварэньне гэтага незалежнага гаспадарства — неабходная рэч для забясьпечаньня міру на Усходзе...

Што значаць гэткія словы ў вуснах паноў пілсудчыкаў, мы добра ведаем!

### Яшчэ цікаўныя ўгодкі...

Польскія газэты з захопленьнем пішуць аб 10 тых угодках, якія мінулі 28 траўня — ад часу гістарычнай пастановы польскіх пасоў аўстрыяцкага Сойму і Дзяржаўнай Рады...

Пастанова гэта—запраўды цікаўная мо' і з боку, які не прадугледжаны польскай прэсай! Вось якога зьместу і сэнсу была гэтая гістарычная пастанова:

„Польскае Кола" аўстрыяцкага парляманту ў 1917 г. заявіла—у часе існаваньня Аўстрыяцкай Дзяржавы, што — „адзіным імкненьнем польскага народу ёсьць адбудова незалежнай ды аб'яднанай Польскай Дзяржавы — з доступам да мора". Далей „Кола" заявіла, што,—„салідарызуючыся з гэтым імкненьнем, яно сцьвярджае міжнародавы характар польскай справы, прызнаючы ажыцьцяўленьне імкненьня польскага народу за рэальную гарантыю трывалага міру". Сабраньне, на якім прынята гэтая пастанова, было, як сцьвярджае польская прэса, падрыхтавана ў працягу некалькіх месяцаў працай розных польскіх грамадзкіх і навуковых установаў у Аўстрыі.

„Гістарычная пастанова" гэта, якой так хваляцца цяпер паны польскія патрыёты, была, кажучы юрыдычнай мовай, якою цяпер так любяць карыстацца ў сваей дзяржаве тыя-ж паны—на чале з міністрам справядлівасьці Мэйштовічам,—адносна да сваіх „нацыянальных меншасьцяў", — ёсьць выразная і бясспрэчная **здрада стану**. Дык трэба заўсёды памятаць, што хваліцца такімі патрыятычнымі пастановамі, адначасна прасьледуючы за тое-ж самае патрыётаў сярод іншых народаў, гэта-ж, мягка кажучы, — непасьледавальна.

### Правы афіцэраў на выбарах ў самаўрады.

Цікаўная дыскусія мела месца на нарадзе соймавых клюбаў, скліканай п. Гломбіньскім. Газэты падалі падробную справаздачу аб нарадзе польскіх „апазіцыйных" клюбаў — у сувязі з набліжаючайся надзвычайнай сэсіяй Сойму. Паміж іншым на гэнай сэсіі правіца мае падняць справу аб выбарных правох чынных вайсковых ня толькі на выбарах да парляманту, але і ў самаўрады. Правіца рашуча проці гэтага права. Бо, калі даваць права гэтае афіцэрам, дык трэба даць тое-ж і жаўнерам. Але гэта наагул ня мае падставы ў Канстытуцыі, якая арт. 12 забараняе ўсім чынным вайсковым учасьце ў выбарах наагул. Дзеля таго, што ў варшаўскіх выбарах прымалі ўчасьце афіцэры, правіца прапануе выданьне спэцыяльнага закону, забараняючы ўчасьце вайсковых у выбарах у самаўрады.

З точнага сэнсу арт. 12 ясна, што бліжэйшым чынам ён кажа аб выбарах у Сойм. А ў навуцы права ёсьць прынцып, што загад закону, які ставіць пэўныя абмяжаваньні правоў грамадзян, ня можна тлумачыць пашыраючы яго. Дык трэба думаць, што пачын правіцы праваліцца.

## Заграніцай.

### Латвійска-радавая ўмова падпісана.

Латвіска-радавая тарговая ўмова, перагаворы аб якой дагэтуль зацягіваліся, неўспадзеўкі падпісана. Усе спрэчныя дагэтуль пункты аканчальна ўзгоднены.

### Польска-латвійскія перагаворы.

Польска-латвійскія перагаворы аб тарговай умове маюць распачацца 15 чэрвеня.

### Унутраная пазыка радавага ўраду.

Радавы ўрад выпусьціў унутраны заём—у суме 200 мільёнаў рубл. на 10 гадоў, за які будзе плаціць 12 прац. гадавых.

### Заварушыліся ў Румыніі.

Венскія газэты даносяць з Румыніі, што ўрад ген. Авэрэску падаўся ў адстаўку. Быццам адстаўка выклікана пастановай караля, які чамусьці раптам захацеў, каб „яго ўрад атрымаў шырэйшую—ўсенародную—падставу ў парляманьце". Дзеля таго кароль даручыў свайму... міністру двара—зложыць „урад нацыянальнай канцэнтрацыі".

Газэты пішуць, што ў гэтым новым ўрадзе вялікую ролю будзе іграць павадыр найбольш ваяўнічай партыі Румыніі — ведамы Братыяну. Адзначаюць яшчэ, як характэрную азнаку,—прызыў да караля камандзіра 10 корпусу ген. Папова. 10 корпус якраз разьмешчаны—ў Бэсарабіі...

Усё разам ясна паказуе, што Румынія заварушылася—або ў сувязі з інспэкцыйным аб'ездам граніцы генаралам Ворошыловым, або—беспасрэдна ў сувязі з разрывам між Англіяй і ССРР.

### Выбары ў Баўгарыі.

29 траўня адбыліся выбары ў баўгарскі парлямант, так-званае Народнае Сабраньне. Урадавыя партыі атрымалі 172 мандаты, апрача ўмоўна падтрымліваючых урад нацыянал-лібэралаў, македонцаў і інш. Гэткім чынам, усяго прыхільнікаў ураду выбрана 189. Апазыцыя здабыла з бою толькі 84 мандаты, з іх радыкальных аграрыяў (прадстаўнікоў шырокіх масаў сялянства)—59, сацыял.-дэмакратаў 6, камуністаў—5; рэшта апазыцыі — буржуазныя радыкалы. Выбарная кампанія мела характар адкрытага тэрору, як гэта заўсёды робіцца на Балканах, дзе ўрадавыя партыі заўсёды „здабываюць сабе" большасьць на выбарах. Цікаўна, што перад самымі выбарамі міністар ўнутран. спраў заявіў,—што ўрад „мае пэўныя надзеі правясьці ня менш, як 170 паслоў урадавай большасьці".—Як бачым, паліцыя выканала „заказ" міністра з матэматычнай точнасьцяй...

### Канфлікт з Ягіптам—новая пагроза Англіі.

„Трышкін каптан" англійскага імпэрылізму, толькі што залатаны абы як у Азіі, пагражае ізноў парвацца ў вялізарную дзіру і ў Азіі, і—ў Афрыцы.

Англійскае агенцтва паведамляе, што англійскі „высокі камісар" Ягіпту падаў ягіпецкаму ўраду вельмі рашучую ноту, трэбуючы, каб урад „перастаў уцягіваць армію ў палітку партыяў". У чым сутнасьць канфлікту, пакуль што яшчэ дакладна няведама. Тэлеграмы з Лёндану кажуць толькі, што ягіпецкі парлямант—пад націскам лявіцы — адмовіў „высокаму камісару" нейкіх крэдытаў на войска, што і выклікала трэбаваньне Англіі „спыніць непаразуменьне". Англійскі ўрад дадае, зразумела-ж, што гэткі крок „камісара зусім не нарушае таго прызнаньня незалежнасьці Ягіпту, якое зроблена Англіяй у 1922 г.", ды „становіць трывалую падставу дзяржаўна-праўнага палажэньня Ягіпту".

Чым скончыцца канфлікт Англіі з Ягіптам, трудна сказаць. Бліжэйшы ход яго мае быць такі: прэм'ер перадасьць дамаганьне „камісара" — парляманту, які і вырашыць справу. Калі пастанова парляманту будзе некарысна для Англіі, тады парлямант будзе распушчаны і назначаны новыя выбары. Новыя выбары і будуць голасам народу, які

Агр. Уліцін.
(Перарабіў У. П.)

## Суд над трохпалёўкай.

*Агро-п'еса ў 1 дзеі.*

(Глядзі пачатак у № 16 і 17 „Наша Праўда").

**Старшыня.** Аграном грам. Севазваротнік! Суд просіць вас, каб вы ўгрунтавалі ўсе абвінавачаньні, якія зроблены падсуднай Трохпалёўцы Беларускай у абвінавальным акце.

**Севазваротнік.** Першы пункт абвінавачаньня грамадзянкі Трохпалёўкі—гэта вельмі кепскае выкарыстаньне зямельнага запасу краю, дзяржаньне пад папарам $^{1}/_{3}$ ўсёй зямлі. Калі ў краю ёсьць шмат людзей, якіх мы павінны лічыць малазямельнымі, пакіданьне ў папары трэціны зямлі я лічу злачынствам і вялікай стратай для сялянства. Пры правільнай апрацоўцы зямлі і чарадаваньні расьлін можна абыйсьціся і без папару, ён можа быць заняты шпаркарастучай травой, напрыклад азімай выкай. Азімая выка дасьць корм для скаціны ў самы цяжкі час бяскорміцы, а затым звальняе зямлю для апрацоўкі. Апрача гэтага, азімая выка, скошаная на зялёны пошар, узбагачае зямлю, як і ўсе бабовыя расьліны, вельмі каштоўным спажыўным складнікам—азотам, які расьлінка бярэ пры дапамозе бактэрыяў на карэньчыках з паветра і пакідае ў зямлі ў форме солі.

Зямля, прыгодная для пасеву, можа штогод выкарыстоўвацца. Падсудная Трохпалёўка апраўдаваецца тым, што зямлі патрэбен адпачынак. Гэта правільна, але-ж які тут адпачынак, калі зямлю топча жывёла на працягу трох-чатырох месяцаў? Адпачынак будзе толькі тады, калі зямля застаецца рыхлаю, чыстаю ад сьмяцьця і ў поўным супакоі.

Другі пункт абвінавачаньня грамадзянкі Трохпалёўкі, — гэта высіляньне зямлі ад пасеву расьлін аднаго роду: жыта, ячменю, аўса, пшаніцы. Кожная расьліна патрабуе рад пажыўных матэрыялаў. Калі з іх не хапае хоць аднаго, дык расьліна жыць ня можа. Найчасьцей у зямлі не хапае чаго-небудзь з такіх трох матэрыялаў: азоту, паташу і фосфару. Расьліны бяруць матэрыял неаднолькава; напрыклад, жыта, авёс і інш. каласавыя бяруць з зямлі азоту і фосфару вельмі многа, бульба, буракі бяруць многа з зямлі паташу, а выка, канюшына і іншыя бабовыя патрабуюць многа паташу і няшмат фосфару, але могуць абходзіцца без азоту ў зямлі. Трохпалёўка сеяла толькі расьліны каласавыя, якія штогод выцягвалі з грунту азот і фосфар, а паташу многа аставалася нявыкарыстанага, прычым гэтыя спажыўныя складнікі зямлі браліся толькі з верхніх пластоў грунту. Хутка ў зямлі зьявілялася перавага паташу і недахват азоту. Каб выкарыстаць усе пажыўныя матэрыялы з усіх пластоў зямлі, расьліны павінны чарадавацца, а гэта магчыма толькі пры шматпольлі.

Трэцім абвінавачаньнем грамадзянкі Трохпалёўкі зьяўляецца выкарыстаньне папару, як пашы для скаціны, і тое, што папар позна гарэцца. Раньняе ўзорваньне папару ёсьць магутны спосаб барацьбы з засьмечаньнем палёў, неўраджаем, бо яно спрыяе накапленьню спажыўных матэрыялаў у зямлі сіламі прыроды пры дапамозе паветра, вохкасьці і цяпла. Раньняе гараньне папару ачышчае зямлю ад шкоднага траўя, перашкаджае пладзіцца шкодным жукам і казюлькам, выпраўляе будову зямлі, робіць яе з глыбакаватай, пылаватай, заплываючай пры дажджох—дробна камкаватай. Раньняя апрацоўка і ўзорваньне, як казаў сьведка Бурак, павышаюць ураджай да 100 і болей пудоў. Позьняе ўзорваньне пры трохпалёўцы псуе зямлю. За кароткі час апрацоўкі, зямля не пасьпявае сабраць многа спажыўных матэрыялаў. Нікчэмнае траўё сушыць зямлю, цягне з яе рэшту спажыўных матэрыялаў, і тады бываюць такія ўраджаі, як у сьведкі Нядолі—35 пуд. з дзесяціны, або й нічога ня родзіцца.

Чацьверты пункт абвінавачаньня грамадзянкі Трохпалёўкі—гэта засьмечваньне ўсей зямлі шкадлівым траўём і казюлькамі. На позным папары шкадлівыя травы пасьпяваюць узрасьці ды абсеменіцца. Будучы моцнымі і трывалімі, яны буйна разрастаюцца паміж пасевамі і глушаць хлеб, зьмяншаючы ўраджай. Пры шматпольлі пасевы чарадуюцца так, што зернавыя сеюцца пасьля корань-клубня-плодаў, пасьля якіх зямля робіцца пухлай і ачышчаецца ад траўя. Канюшына, якая сядзіць на полі па 2 гады і больш, таксама глушыць, нішчыць дзікае траўё. Адносна да разьвядзеньня жукоў і казюлек, дык хоць грамадзянка Трохпалёўка і ня лічыць сябе вінаватай, кажучы, што не яна іх стварыла, а бог, але-ж гэта толькі старыя байкі, бо жукі, матылі і казюлькі жывуць і могуць жыць толькі тады, калі для іх жыцьця ёсьць добрыя ўмовы. Напрыклад, матыль азімага чарвяка ў ліпні лётае і кладзе яйкі на папары, дзе расьце траўё—сьвярэпка, бярозка, а таксама і на межах. Калі ў гэты час і папар і межы будуць ачышчаны ад траўя, матыль ніколі не пакіне сваіх яек, а паляціць далей шукаць травы. Пры шматпольлі папар—узараны, чысты, а пры трохпольлі ён зялёны і вабіць да сябе матылёў, якія і кладуць на траве свае яйкі. З яек выходзяць чарвякі, якія зьядаюць сьпярша траўё, а пасьля пераходзяць на пасевы. Так рабіў чарвяк соўкі-гамы (ільняны чарвяк), які ў 1922 годзе паеў выку і інш. Такім чынам, у расплодзе жукоў ізноў вінавата толькі Трохпалёўка, бо яна не дае магчымасьці правільна выраблять зямлю.

Пяты пункт абвінавачаньня грамадзянкі Трохпалёўкі — гэта сьвядомая адмова ад пасеву каранёплодаў. У адраджэньні сельскае гаспадаркі гадоўля жывёлы мае вялізарнае значэньне. Ад гадоўлі жывёлы залежыць і разьвіцьцё паляводзтва. Пры правільнай гадоўлі каровы будуць карысна пераварацць корм, прадукты земляробства ў дарагія прадукты малочнае гаспадаркі: малако, масла, сыр. Гэта падцьвярджаецца паказаньнем сьведкі Бурака, які мае 4 дзесяціны зямлі, гадуе 4 каровы, з якіх кожная дае 150—180 вёдзер малака і прыносіць гаспадару 400 рублёў золатам прыбытку. Жывёла-ж у сялян ад нястачы добрага корму драбнее і выраджаецца.

Шостае абвінавачаньне: Трохпалёўка задзяржала разьвіцьцё фабрычнае прамысловасьці, што прывяло да вялікага беспрацоўя. Разьвіцьцё сельскае гаспадаркі дало б працу шмат людзям і стварыла-б запатрабаваньне на вырабы прамысловасьці, якая павінна была б разьвівацца і крэпнуць. Для прыкладу можна прывясьці словы сьведкі Бурака: як толькі зьявіліся малочныя прадукты, заразжа для перапрацоўкі іх стварыўся маленькі завод... я скончыў.

**Старшыня.** Скажэце, грамадзянін Севазваротнік, як можна падняць ураджай пры шматпольлі з травапасевам і захаваньнем усіх іншых умоў правільнага гаспадараньня?

**Севазваротнік.** У нас на Беларусі можна даставаць ураджай да 150 пудоў з дзесяціны. Заграніцай пры тых самых варунках ураджаі даходзяць да 200 пудоў.

**Старшыня.** Да якой вышыні можна давясьці малочнасьць кароў на шматпольлі з травапасевам і караньплоднай гаспадаркай?

**Севазваротнік.** Пры правільным выкармліваньні і гадоўлі ў цёплых хлявох можна дастаць 200—250 вёдзер.

**Старшыня.** (*Да сяброў пракурора і абаронца*). Ці ёсьць у вас запытаньні да аграгнома?

**Пракурор.** Прашу дазволіць.

**Старшыня.** Калі ласка.

**Пракурор.** Ці лічыце вы, што прычынай голаду і недародаў у нас на Беларусі і на Усходзе Эўропы была грам. Трохпалёўка?

**Севазваротнік.** Так, магу пасьведчыць, што асноўной прычынай, задзержаваючай разьвіцьцё сельскай гаспадаркі, зьяўляецца Трохпалёўка. Прычынай голаду ў нас у 1927 годзе, як роўна частых неўраджаяў на Паволжы, Украіне—лічу яе.

